Opłata pocztowa opłacona „ryczałtem.
Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 34. Вільня, 12 лістапада 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4 — 35, за 1/8 — 20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Да Беларускага Грамадзянства!

Дваццаць адзін год прайшло ад часу, калі, як фактычны рэдактар „Нашае Долі“, я ў 1906 годзе выпусьціў у сьвет у горадзе Вільні першы нумар, першай, пасьля доўгіх год заняпаду, беларускай тыднёвай часопісі.

Словы ў роднай мове, кінутыя ў масы беларускага сялянства, разбудзілі яго з даўгавечнага сну няволі. Іскра свабоды, выкрасаная з грудзей жменькі моладзі, згрупаванай каля „Нашае Долі“, разгарэлася магутным агнём у сэрцы беларускага сялянства.

На старонках „Нашае Долі“, мы дамагаліся дэмакратычнага рэспубліканскага ладу, дамагаліся зямлі працоўнаму сялянству, дамагаліся агульнага, для ўсіх роўнага, простага і прапарцыянальнага выбарчага закону, дамагаліся фактычнай роўнасьці перад законам усіх людзей, бяз розьніцы нацыянальнасьці, веры і стану, дамагаліся пашаны чалавека і працы.

На старонках „Нашае Долі“ мы заклікалі да згоднага сужыцьця ўсіх народаў нашага краю.

Маскоўскае самадзяржаўе хутка задушыла гэну першую нашу часопісь, першую беларускую ластаўку свабоды.

Ня маючы магчымасьці ў варунках самадзяржаўнага ладу, стоячы на грунце закону, змагацца за лепшую долю свайго народу, я, як верны сын яго, са жменькай сваіх аднадумцаў, пайшоў у толькі што пачаўшую жыць нелегальна „Беларускую Сацыялістычную Грамаду“.

І тады жывым словам па вёсках нашых, у курных хатах, шэптам пачалі мы казаць тое, чаго не маглі галосна сказаць у забітай жандарамі маскоўскага цара „Нашай Долі“. І народ слухаў нашых словаў аб зямлі і свабодзе, і слухаючы іх, нядаўны нявольнік — падданы расейскага цара — перараджаўся ў вольнага чалавека.

Жандары сачылі кожны наш крок, мы ведалі гэта. Таксама ведалі мы, чым пагражае для нас гэная праца, але, мыляючы іх зоркае вока, мы нейкі час далей рабілі сваё, бо толькі гэткім чынам мы маглі каваць лепшую долю свайму народу, бо любоў да яго была мацнейшай у нас, чым жах вастрогаў, катаргі і Сібіры.

Ажно прыйшоў час, калі перамаглі нас чорныя сілы. Я апынуўся ў вастрозе. Суд асудзіў мяне на пазбаўленьне ўсіх правоў і высылку ў Сібір на пасяленьне. На падставе жальбы майго абаронцы Сэнат адмяніў гэны прыгавар і мяне судзілі другі раз. Гэны другі суд апраўдаў мяне. На гэны другі прыгавар пракурор злажыў жальбу ў Сэнат, і Сэнат зноў адмяніў прыгавар суда. Мяне судзілі трэці раз, і гэны трэці суд зноў апраўдаў мяне. У працягу пяцёх год, я то сядзеў у вастрогах, то зноў пад залогам і парукамі жыў на волі, каб праз некалькі месяцаў зноў сесьці ў вастрог.

Хваля вайны, пракаціўшыся праз нашу зямельку, пакінуўшы пасьля сябе руіны, гора, сьлёзы і попелішчы, разьдзяліла беларускі народ. І калі часьць яго, на Ўсходзе засталася пад Масквою, і стогне пад самадзяржаўем чырвонага камунізму, другая частка яго, апынуўшыся ў межах Польскае дзяржавы, карыстаецца з правоў дэмакратычнага рэспубліканскага ладу.

Праўда, конституцыйныя законы Польшчы, пакуль што, ня ўсе ўведзены ў жыцьцё, шмат іх, пакуль што, істнуе толькі на паперы.

Але маёвы пераварот адчыніў шырокі прастор для іх ажыцьцяўленьня, што дасьць магчымасьць выяўленьня ўсіх творчых сіл беларускага народу і здабыцьця зямлі і правоў вольнага чалавека.

Увядзеньне іх у жыцьцё цяпер залежыць толькі ад сьведамасьці і арганізованай сілы народных масаў, засяляючых Польскую Дзяржаву. І тут, у нашым краі, у межах Польскае Дзяржавы беларускі народ павінен выкарыстаць запэўненыя яму конституцыйным законам і рэспубліканскім ладам Польшчы правы для арганізацыі сваіх сіл, каб разам з дэмакратыяй польскай і іншых народаў, засяляючых абшары Польскае Дзяржавы, дабіцца поўнага ўвядзеньня ў жыцьцё конституцыйных законаў Польшчы і, апіраючыся на іх, далей каваць сабе лепшую долю.

І вось, як дваццаць адзін год таму назад, я кідаў на старонках „Нашае Долі“ словы аб зямлі і волі, таксама і цяпер на старонках „Бел. Дня“, для зьдзейсьненьня гэных слоў, заклікаю беларускі народ да арганізацыі сваіх сіл пад сьцягам новапаўстаўшай Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі, якая будзе вясьці працу, пачатую „Нашай Доляй“. У шэрэгах яе вы знойдзеце і тых самых людзей, якія за правы беларускага народу, за правы беларускага сялянства вялі барацьбу з маскоўскім самадзяржаўем.

Гэныя людзі ня здрадзяць беларускі народ, ня здрадзяць бел. сялянства, бо працай іх кіруе і цяпер, як дваццаць год таму назад, не асабістая карысьць, а высокая ідэя кавaньня лепшае, яснейшае долі беларускаму народу.

Беларусы — усе, як адзін, пад сьцяг Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі!

*Ф. Умястоўскі.*

**Чытайце, выпісвайце і пашырайце**

**„БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“.**

## Чаму мы аўтанамістыя?

(Гл. № 33 „Бел. Дня“).

Калі затрымацца цяпер на справе абцяжэньня беларускіх земляў падаткамі і павіннасьцямі, то трэба сказаць, што ўсе уставы, выданыя ў Варшаве, прыстасоўваюцца да гаспадарчага стану і таго разьвіцьця гаспадаркі ў галіне землярoбства і гандлю, якое істнуе ў цэнтральнай Польшчы і ў яе заходняй часьці, дзе без паранаўнаньня вышэйшы гаспадарчы ровень у параўнаньні з Заходняй Беларусяй. Тут сельская гаспадарка не дае такога даходу, які зьяўляецца нармальным для Пазнанскага ваяводзтва, ці нават Варшаўскага. Таксама з даходнасьцю і абаротамі ў гандлі. Гэтыя розьніцы не бяруцца пад увагу, а ў выніку маем непамернае абляжэньне налогамі, якія плацяцца не з даходу, а з маемасьці, што руйнуе падставу дабрабыту насельніцтва.

У галіне культурнай бачым тое самае. Усе загады цэнтру з Варшавы не бяруць пад увагу нацыянальнае асаблівасьці краю, зьяўляюцца мала прыстасованымі да патрэбаў насельніцтва і яго псыхолёгічнага навыку. Прыложаныя да практычнага жыцьця, даюць ад‘емныя вынікі, або ня могуць быць стасаваны ў найлепшым выпадку.

Цэнтралізм, паводле якога ўсё жыцьцё ў Польшчы мае быць кірована загадамі з Варшаўскага цэнтру, зьяўляецца няпрыдатным для Заходняй Беларусі. І для насельніцтва і для дзяржавы ён шкодны, асабліва, калі прымем пад увагу, што выканаўцамі такога спосабу кіраваньня краем зьяўляюцца вельмі часта людзі імпартаваныя на беларускія землі з другіх провінцыяў, людзі, якія беларусаў не разумеюць і зразумець ня могуць, а галоўнае ня хочуць зразумець. Тады, калі масы беларускае інтэлігэнцыі застаюцца бяз уплыву на жыцьцё краю і да ўрадовых установаў не дапускаюцца, як грамадзяне другое катэгорыі.

Мы лічым, што так далей быць ня можа. Для дабрабыту дзяржавы і насельніцтва Заходняй Беларусі гэны бяздушны і неразумны цэнтралізм павінен быць пакінуты. Польская рэспубліка мусіць быць перабудована паводле тых вымогаў, якія ставіць само жыцьцё, гаспадарчая, нацыянальная і культурная структура беларускіх земляў.

Увесь абшар, дзе істнуе перавага беларускага насельніцтва, дзе адменны уклад гаспадарчых адносін і дзе іншыя, чымся ў этнографічнай Польшчы, культурныя патрэбы насельніцтва, мусіць быць выдзелены ў аўтаномную палітычную адзінку з Соймам у Вільні.

Гэны Сойм мае вырашаць усе гаспадарчыя і культурныя патрэбы беларускіх земляў. І толькі ён, ня зьвязаны перавагай чужой для краю большасьці паслоў, стане на шлях культурнага і гаспадарчага адраджэньня гэнае аўтаномнае провінцыі, а таксама паднясьцца сілы і моцы ўсяе

# Корэспондэнцыі.

## Аб нашым жыцьці.

*(в. Церабостынь, Стаўпецкага пав.)*.

Нічога пра нашу вёску ня чуваць у газэтах, хоць і ёсьць шмат аб чым пісаць. Хто быў у нашай ваколіцы, дык пэўне чуў што-небудзь аб Церабостыне. Вёска Церабостынь ня можа пахваліцца ані сьведамасьцю сялян ані культурнай працай, а толькі баптыстымі.

Вось, каб чытачоў пазнаёміць з гэтай шкоднай сэктай, я хачу напісаць аб ёй некалькі слоў.

Якіх прынцыпаў трымаецца яна, мабыць, кожнаму ведама, а дзеля таго я ня буду аб гэтым пісаць.

Баптызм перанёсься да нашай вёскі з Украіны праз гр. Янку Панька, цяперашняга баптыскага верхавода.

Спачатку гэтая сэкта аж да 1926 году ня мела амаль што ніякага посьпеху. Але вось у мінулым годзе пасьля рачнога хрышчэньня баптыстыя загаварылі пры маленьні „рознымі“ г. зн. нікому няведамымі мовамі. Хоць я знаёмы з некалькімі эўропэйскімі мовамі, аднак, ні ў якой з іх я ня чуў падобных слоў. Баптыстыя, стаўшы на калені, голасна крычаць, хто колькі можа, незразумелыя для нашага жыхарства словы і пры тым так хутка, што я ледзь здалеў запісаць некаторыя з іх, як напр. *солёмолё, молёсолё, гітамала, мала дала, зай, зай, зай*.

Шмат з цёмных сялян, пачуўшы гэта, казалі, што сам Дух Божы зышоў на баптыстых і грамадай прылучаліся да гэтай сэкты. Найбольш, аднак, прылучалася моладзь. Бо хто-ж, як ня моладзь, мае найбуйнейшую фантазію? Часта, сабраўшыся на вечарынку, дзяўчаты замест павесяліцца, гутарылі аб жыцьці ў небе, аб тых залатых палацах, якія прыгатуе Бог для баптыстых, аб хуткім канцы сьвету і г. д. Досьць сказаць, што баптыстыя ўвосень 1926 году і зімою сёлетняю мелі найбольшы лік сяброў і прыхільнікаў.

Урэшце вясною г. г. памалу сама сабою пачала распадацца гэтая шкодная сэкта і цяпер там засталося ўсяго каля 30 чалавек. Цяпер трэба сказаць, дзеля чаго баптызм шкодная сэкта. Перш за ўсё, яна шкодная тым, што ня хоча вясьці барацьбы за свае правы, за правы чалавека і грамадзяніна і адбівае ахвоту да барацьбы ў іншых. Баптыстыя крычаць на сваіх сабраньнях: „На што нам дабівацца сваіх правоў, калі мы можа нават заўтра паўміраем, калі можа заўтра скончыцца існаваць сьвет? Нам трэба старацца папасьці ў рай, там жыць вечна і панаваць, а на гэтым сьвеце можна й пагараваць“.

Баптыстыя ня прызнаюць нацыянальнасьці. Гэтым самым яны адбіваюць сьведамасьць у сялян, якія і так ня знаюць, хто яны.

Баптызм—гэта вораг культуры і навукі. Паіхняму чалавек не павінен нічога рабіць, каб палепшыць сваё палажэньне.

Вучыцца паіхняму ня трэба, і чалавека вучонага яны лічаць за чарадзея. Адна баптыстка казала мне, што доктар—гэта чарадзей і вараж-біт, мала таго, чалавека сьведамага, які хоча з імі паспрачацца, яны называюць чортам, сатаною, люцыпарам і г. д. Калі баптысты захварэе, дык яго сябры толькі над ім памоляцца, а ніякае скорае помачы не даюць, бо лічаць гэта за грэх.

Многа чаго вельмі цікавага можна было-б

---

Дзяржавы. Толькі пры перадачы Краёваму Сойму і яго выканаўчым органам права вырашаньня культурных і гаспадарчых патрэбаў насельніцтва паднімецца дабрабыт краю.

Беларусы тады перастануць быць грамадзянамі другой катэгорыі, уцягнуцца ў дзяржаўную работу для краю і цэлае дзяржавы.

Чужыя беларускаму народу і варожыя яго культурным патрэбам урадоўцы мусяць адысьці ў этнаграфічную Польшчу, ці перамяніць свой пагляд на нас, а на іх месца прыдуць беларусы і краёвыя людзі, якія зьяўляюцца ня толькі абмяжованымі ў правох грамадзянамі, але сапраўднымі патрыётамі свайго краю і ўсяе Польскае Рэспублікі.

Толькі пры ўвядзеньні аўтаноміі можа падняцца гаспадарчы стан беларускіх земляў, сялянства ня будзе плаціць толькі налогі, але адтрымае патрэбную дапамогу на разбудову гаспадарак і падыме спосаб абработкі зямлі да таго стану, які істнуе за граніцаю, на Захадзе. Тое самае з гандлем. Краёвы Сойм ня будзе абцяжваць яго непамернымі, незастасаванымі да абароту і даходу падаткамі, што здараецца на нашых землях цяпер.

Увядзеньне аўтаноміі ўнясе новую эру ў польска-беларускія адносіны, адкрыўшы дарогу да паразуменьня гэных двух брацкіх народаў і будзе тым шляхам, па якім можна дайсьці да згоднага сужыцьця Незалежнае Беларусі з Незалежнай Польшчай.

Аўтаномія супакоіць край і без паліцэйскіх і судовых рэпрэсіяў зглуміць усялякую работу на карысьць чырвонага інтэрнацыяналу і расейскага імпэрыялізму. Суседняя Усходняя Беларусь, дзе істнуе ня больш, як аўтаномія ў гаспадарчай і культурнай галіне, перастане дзеяць на ўяўленьне беларусаў.

Аўтанамічны цэнтр — Вільня, дзе пачалося адраджэньне Беларускага Народу, пры шчырым падыходзе да справы аўтаноміі ўсіх дэмакратычных элемэнтаў Заходняе Беларусі, ізноў стане для ўсяго Беларускага Народу тым асяродкам, каля якога будзе вырашацца Вольнасьць і Незалежнасьць Беларусі. Так зв. Б.С.С.Р.,—фальварак маскоўскага камунізму — страціць для беларусаў тое прыцягальнае значэньне, якое дагэтуль у пэўных слаёх народу нашага можа мець.

У гэтым вялікая вага і насьпеласьць вырашэньня аўтаноміі беларускіх земляў для Польскае Рэспублікі і тых высокіх дзейнікаў, якія на лёс яе маюць свае ўплывы. Аўтаномія вывядзе беларускае пытаньне ў межах Польшчы з таго запальнага і небясьпечнага стану, у якім цяпер яно знаходзіцца, для беларусаў бяз розьніцы партыйных паглядаў павінна быць заданьнем і лёзунгам на сяньня, а для Дзяржавы неабходнай канечнасьцяй, сродкам узмацаваньня сілы яе ўнутры і вонках.

*Саўліч.*

Канец.

напісаць аб гэткіх вырадках чалавецтва, але не пазваляе гэтага зрабіць недахоп месца ў газэце.

Скажу, аднак, што баптызм пашыраецца толькі дзякуючы нясьведамасьці і цемнаце нашых жыхароў.

Дзеля таго, што баптызм без цемнаты насельніцтва пашырацца ня можа, дык трэба хоць троха разагнаць той туман, які ахінуў нашу вёску. Гэта можа зрабіць толькі родная кніжка і газэта. Замест ісьці на сабраньне баптыстых, трэба ўзяць газэту і, сабраўшыся дзе-небудзь, прачытаць яе. Тады вы, сяляне в. Церабостынь, пазнаеце, што робіцца на сьвеце, навучыцеся, як правільна весьці гаспадарку і інш.

*Ігнат Бяздольны.*

## Конгрэс літоўскай эміграцыі ў Рызе.

Рэпрэсіі і гвалты фашыстоўскага ўраду Вальдэмараса, прымусілі выэміграваць з Літвы ўсіх найлепшых яе дэмакратычных дзеячоў. Асабліва па няўдалым замаху ў Таўрогах урад Вальдэмараса пачаў тасаваць да опозыцыі найвялікшыя гвалты. Шмат каго расстралялі, іншымі запоўнілі турмы і канцэнтрацыйныя лагеры. Па Літве як-бы прайшло жніво сьмерці. Хто мог, стараўся ўцякаць. Такім чынам, на эміграцыі ў суседніх дзяржавах, як Латвія, Польшча і Нямеччына апынулася больш, як тысяча літоўскіх дэмакратычных барацьбітаў за свабодную і дэмакратычную Літву.

Літоўская эміграцыя 5.XI склікала ў Рызе вялікі конгрэс эміграцыі, на які прыслалі сваіх прадстаўнікоў і дэмакраты іншых народаў, як Польшча, Латвія і Эстонія.

Прамоўцы характарызавалі варункі жыцьця ў цяперашняй Літве. Усякае грамадзкае жыцьцё моцна абмяжована. Ніхто, апрача пануючай клікі, ня можа карыстацца грамадзкімі свабодамі. Усіх, хто толькі ў чым-колечы ня годзіцца з палітыкай ураду Вальдэмараса, прасьледуюць. Прасьледаваньні носяць таксама спэцыяльны характар сярэднявечных зьдзекаў. Даволі ўспомніць, што удзельнікаў паўстаньня ў Таўрогах расстрэльвалі, як сабак, адразу па 35 чалавек. Свабода прэсы ня існуе. Словам, жудасны абраз палажэньня, ў якім знаходзіцца Літва п. п. Вальдамараса і Смэтоны. Самі Вальдамарас і Смэтона зьяўляюцца толькі інструмэнтамі ў руках групы ахвіцэраў, якія трасуць дзяржавай.

Прадстаўнікі суседніх народаў, асабліва латвійскія соцыяль-дэмакраты, горача віталі літоўскіх эмігрантаў-барацьбітаў, дакляруючы ім сваю дапамогу.

Яны згодна заяўлялі, што фашызм, гэта ня толькі вораг Літвы, але ўсіх дэмакратыяў. З фашызмым усе павінны змагацца.

Ад імя польскае дэмакратыі на конгрэсе выступалі пасол К. Палякевіч і віцэ-прэзыдэнт м. Вільні Чыж. Пасол Палякевіч падаў гэткую дэклярацыю:

1. Дэмакратычная Польшча шчыра выцягвае братэрскія рукі да прадстаўнікоў работнікаў, сялян і працоўнай інтэлігэнцыі літоўскага народу і ўрачыста заяўляе, што ніколі ў нічым не нарушыць і не пазволіць нарушыць незалежнасьці тэрыторыі Літвы.

2. Край наш хоча жыць з усімі бяз вынятку суседзямі ў міры і згодзе, горача жадаючы найвялікшага росквіту і развою для дзяржавы і народу літоўскага.

3. З гэтых повадаў найгарачэйшым пажаданьнем польскае дэмакратыі ёсьць, каб край наш навязаў з Літвой якнайхутчэй нармальныя суседзкія адносіны палітычныя, гаспадарчыя і культурныя.

4. Польская дэмакратыя, ня хочучы ўмешвацца у ўнутранае жыцьцё Літвы, хоча, аднак, сьцьвярдзіць, што сама, стараючыся угрунтаваць дэмакратычны лад, шляхам правядзеньня соцыяльных рэформаў, перш за ўсё аграрнае рэформы, вітаець высілкі літоўскай дэмакратыі, ідучыя ў гэтым напрамку, стоячы на становішчы, што ўсе спрэчныя справы, істнуючыя паміж Літвой і Польшчай, павінны быць урэгуляваны шляхам бэспасярэдніх прыязных перагавораў.

5. Польская дэмакратыя ня ўмешваючыся, як гэта зазначыў, да ўнутранага жыцьця Літвы, хоча выразіць сваю салідарнасьць з літоўскай дэмакратыяй, ідучай процію ураду гвалту і тэрору Вальдэмараса. Ня можам не сказаць, што гэты ўрад у найвышэйшай ступені перашкаджае паразуменьню, так патрэбнаму для абодвух народаў.

Конгрэс літоўскай эміграцыі, з увагі на яго масавы характар і адносіны да яго прадстаўнікоў іншых дэмакратыяў, мае вялікае значэньне.

Такім чынам, урад Вальдэмараса траціць ня толькі падтрыманьне ў краі, але і ў вонкавых адносінах з іншымі дзяржавамі ён ня можа лічыць на спагадлівасьць.

* * *

Восень павольная, восень пужлівая,
Вецер плакучы і нудны,
Песьні яго, гэтак дзіўна тужлівыя
Ўсюды тон шэры, тон брудны.

Восень — ўміраньне і ўсяго адцьвітаньне,
Ты сьцежка няскончаных дум,
Жоўтых, памёршых лістоў ападаньне,
Так ціхі шаптаньня іх шум.

Хмары на небе і так нудна навокал,
Зімнае ветру дыханьне;
Падрэзаны крыльля, зьняволены сокал...
Жахлівае сьмерці змаганьне.

О! ветрыку, браце, гэй з песьняю буры
Бі ў неба і сей зьніштажэньне,
Ў віры не патрэба, ня згледзіш лязуры,
Ў віры не пачуеш цярпеньня.

*А. Бартуль*

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як выбраць добрага гаспадарскага каня.

Наш просты сялянскі конь слабасільны, дзеля таго, што дрэнна збудованы і пры тым яшчэ змалку дастае слабы харч. Не ўзарэ ён у дзень больш як паўморга лёгкае зямлі, а на глеі ці цаліне зусім не пацягне плуга.

Добры харч шмат памагае каню ў працы, але калі конь дрэнна збудованы, то як яго ні кармі, усё роўна карысьць малая. Такі конь хутка падае, цяжка дыхае і дробнымі крокамі ледзь цягне плуг.

У добрага каня вушы не павінны адвісаць, як у каровы (асьцерагайцеся клапавухіх коняй), бо ў такога каня ўжо па вушох відаць, што ён слабасільны і гультай. Таксама абвіслыя вушы бываюць часта і ў старых коняй.

Вока ў каня павінна быць вялікае, круглае, ня косае, вясёлае, а не запаўшае і хмурнае. Трэба заўсёды, купляючы каня, добра пры глядзецца да вачэй, ці шэрсьць пад вачыма не абапрэла ад сьлёз, ці конь не баіцца, калі рукамі пагладзіш каля вока, бо калі пачне пужацца, дык значыць што каню ўжо вочы лячылі. Губы павінны быць моцна сьціснуты. Калі-ж сподняя губа адвісае, вочы запалі, вушы апусьціліся на бакі, то значыць, што конь спрацованы. Сківіцы мусяць быць шырокія, каб паміж імі ўлазіў кулак, бо калі сківіцы шырока пастаўлены, то ня ціснуць на гарляк і ляжыць ён там вольна, а ў цяжкай працы такі конь ня так хутка задыхаецца. Ня шкодзіць адначасна аглядаючы галаву залажыць руку пад сківіцы і паглядзець, ці няма там якіхнебудзь гузочкаў, ці конь здаровы.

Калі ў каня ёсьць пад горлам якія-небудзь скулы ці гузочкі, ды пры тым яшчэ з ноздраў ідзе гной, то такога каня купляць ня можна, бо мала таго, што ён можа сам здохнуць, але таксама і заразіць усю жывёлу, а часам і людзей (сап). Шыя ў працоўнага каня лепш моцная, таўстая. Аглядаючы шыю, трэба таксама адгарнуць грыву і паглядзець, ці няма там балячак, бо бываюць у гэных месцах балячкі, якія ня гояцца.

Грудзі ў каня павінны быць шырокія ў лапатках і глыбокія; коні з вузкаю грудзінаю замульваюцца, кашляюць і часта бываюць з дыхавіцаю, якую вылячыць ня можна. Каня з дыхавіцаю лёгка пазнаць вясною на пашы; калі конь цяжка дыхае, кашляе і пахвіны ўздымаюцца, як у гармоніку, то ў гэткага каня дыхавіца напэўна.

Сьпіна павінна быць шырокая, даўгая, роўная. Конь з шырокаю сьпіною мае шырокі зад і ногі ў такога каня стаяць шырока адна ад адной. Пад шырокім канём трэба разумець каня шырокай косьці, а ня клустага. Часта бывае, што як конь да работы няздатны, дык яго адкормяць і прадаюць за добрыя грошы.

Чэрава не павінна быць вялікае, абвіслае, як кажуць, мякіннае, бо коні з вялікім чэравам слабасільныя.

Ногі не павінны быць тонкія, бо зразумела, што калі тонкія ногі, то і ўвесь касьцяк слабы і працаваць добра такі конь ня можа. Часта бывае, што нага як быццам і шырокая, але на ёй многа мяса, гэта звычайна бывае ў каня халоднакроўнае пароды. Нага мусіць быць сухая, каб было добра відаць усе косьці і мускулы, а калена шырокае ,выразнае, і каб незаметна пераходзіла ў голень. Ногі, як пярэднія, так і заднія мусяць стаяць проста, каб не адхіляліся ні ўперад ні ўзад ці ў бакі. Каб стацьцёвая ад верхняга канца лапаткі праходзіла якраз у задняй часьці капыта. Трэба глядзець, каб хахол ля капыта ня быў даўгі і ляжачы, бо такія ногі ў каня хутка псуюцца. Трэба таксама добра аглядзець капыты, каб ня было трэшчын уздоўж ці ўпоперак, што вельмі шкодзіць каню і такія трэшчыны цяжка загойваюцца. Трэба добра глядзець, бо канюхі часта замазваюць трэшчыны смалою. Капыта не павінна быць тоўстае, лапцяватае, бо такі конь ня можа працаваць без падковаў. Абавязкова трэба падняць ногі і паглядзець зьнізу, ці стрэлка цэлая і ня гніе, бо як толькі сьмярдзіць і выцякае гной з капыта, то такога каня купляць нельга. На калене ці пад ім, як на пярэдніх, так і на задніх нагах не павінна быць ніякіх нарастаў.

Трэба спрабаваць, як конь ідзе ступою, трухам, верхам і запрэжаны ў цяжкі воз. Конь павінен лёгка выкідаць пярэднія ногі і шырока ставіць заднія. Шаг мусіць быць добры, што можна пазнаць таксама па лапатцы: чым касей яна стаіць, тым шырэйшы шаг. Таксама прычыняецца да шырыні шагу і мускул, што ідзе праз шыю і сьпіну: чым даўжэйшая шыя і мацнейшы мускул, тым большы шаг.

Калі конь будзе як-бы кульгаць на пярэднюю нагу, то трэба прабаваць на бягу завярнуць яго крута на той бок, на каторую нагу ён кульгае, а калі здаецца, што кульгае на заднюю нагу, то трэба асадзіць каня назад крокаў на пяць, а тады ізноў уперад. Конь, запраўды хворы, адразу пачне кульгаць.

Вялікую ўвагу трэба зьвярнуць таксама і на тое, ці конь малады ці стары. Добра можна пазнаць тады каня па зубох, найлепш па пярэдніх на ніжняй сківіцы, але як пазнаць па зубох, мы аб гэтым пагаворым калі-небудзь у наступных нумарох.

Хто хацеў-бы сам выгадаваць добрага каня, той павінен добра пільнаваць свае кабылы, добра яе карміць, ня браць да надта цяжкай работы і злучваць з добрымі жарабцамі, не шкадуючы на гэта грошай.

*П.*

---

## Як вясковы гаспадар можа мець свой уласны лясок.

Беларусь, як ведама, лічыцца краем лясоў, але гэта было калісь. Цяпер-жа сьмела можна сказаць, што 95% вясковых гаспадароў ня маюць і аднаго дзераўца свайго, а ўсё трэба купляць лес. Добра, калі ёсьць яшчэ блізка лес, тады можна купіць, але мы бачым ужо, што дужа ёсьць мясцовасьцяў, якія бліжэй, як за паўсотню, а то і больш, кілёмэтраў ня маюць ані лесу, ані торфу. Зіма дзеля такіх гаспадароў вельмі цяжкая: абагрэцца больш каштуе, як прахарчавацца.

Вось-жа, хто бываў за граніцаю — ў Нямеччыне, Бэльгіі або Францыі, той, напэўна, зауважыў

жыў, што там людзі жывуць больш на хутарох і ўсюды там межы, граніцы сядзібаў і ўсе дарогі абсаджаны дзеравамі, словам, выкарыстаны кожны кавалачак зямлі. Многа ўсюды жывых платоў з белае і жоўтае акацыі, амаль ня кожны раўчак абсаджаны вярбою, а дарогі часта нават фруктавымі дрэвамі. Гэткім чынам, кожны гаспадар, уласьнік свайго хутару, які мае, напрыклад, дзесяць дзесяцін зямлі, будзе мець граніцу крутом свайго хутару да 640 сажн. А гэта граніца можа даць яму месца для пасадкі 640 шт. дзерава, і калі ўзяць пад увагу, што гэткі хутар яшчэ мусіць мець якую-небудзь граніцу, або дарогу, і пасярэдзіне хутара, альбо накрыж яго, што гэтакжа дасьць граніцу або месца для пасадкі яшчэ 320 шт., дык разам на граніцах хутару гаспадар лёгка можа мець да тысячы дрэваў (960 шт.), што ў параўнаньні з звычайным лесам дае да паўдзесяціны добрага лесу, а гэта-ж ужо цэлае багацьце для гаспадара!

Падгадаваўшы гадоў колькі, ужо можна карыстаць з свайго ляску, і калі гаспадар будзе кожны год браць, напрыклад, па пяцьдзесят дрэваў, а на іх месца падсаджваць маладняк, дык гаспадар заўсёды будзе мець свой уласны апал і на ўжытак дзерава кожны год. Нават падчышчаючы толькі гэткі лясок і то з дрывамі гаспадар ня будзе мець гора.

Апрача гэтага, пасаджаная акацыя дае вялікую карысьць для пчалярства, вярба дасьць дубцы на патрэбу кашоў і г. д. Трэба добра разумець, што не за гарамі той час, калі і на Беларусі будуць дровы прадавацца на кілёграмы, і што чалавек не дзеля таго жыве, каб толькі рубаць лес, але хтось павінен і садзіць яго. Ёсьць многа людзей, што за сваё жыцьцё не пасадзілі нават і аднаго дзерава, а за тое не знайдзеш чалавека, які-б не карыстаў з лесу. Гэткіх людзей вельмі скора забываюць нават уласныя дзеці. Дык вось, гаспадары, памагайце сваёй бядзе, заводзьце прысады і вучэце дзяцей і старых шанаваць дзерава! Бо Беларусь не Украіна — гноем і саломаю не напаліш печы, а торф ня ўсюды ёсьць.

*Я. Х.*

## Як залажыць садок.

Весялей выглядае хата, калі каля яе ёсьць прыгожы садок. Тымчасам садоў па нашых вёсках мала, а тыя, якія ёсьць, звычайна бываюць запушчаны і даюць гаспадару мала карысьці. Прылажыўшы трохі працы, можна адтрымаць з саду вялікую карысьць.

Пры кожнай хаце можна знайсьці пляцык, закрыты ад вятроў з поўначы і захаду будынкам, дзе можна пасадзіць 10-15 дрэваў. Месца пад сад не павінна быць нізкае, каб, пракапаўшы яму ў тры аршыны, не даставаць вады. Яблыні лепей растуць на ніжэйшым месцы, грушы добра растуць і на ўзгорку. Пляц, выбраны пад сад, трэба ўзараць, добра выгнаіць і садзіць што-нібудзь, пакуль дзерава не пачне радзіць; як толькі дзерава ўжо дае больш фруктаў, то ўжо між дрэвамі нічога ня сеем і ня садзім, бо інакш ні з таго ні з другога карысьці ня будзе.

Шчэпкі найлепш садзіць на чатыры сажні ці тры з паловаю адно ад аднаго ўва ўсе бакі, бо калі садзіць гусьцей, то потым гальлё сайдзецца і абценіць дзерава, разьвядзецца на гальлёх мох, а яблыкі будуць дробныя, няпрыгожыя і не такія смачныя. У садзе ня трэба садзіць многа гатункаў; а шчэпкі трэба купляць у людзей пэўных, бо іначай насадзіш усякай дрэні. Найлепш у нас садзіць дрэвы вясной, а ямы капаць увосень, каб зямля перамерзла. Яму трэба выкапаць шырынёю ў тры аршыны, глыбінёю ў паўтара. Калі капаем яму, то верхнюю зямлю адкідаем у адзін бок, а сподную ў другі і каля кожнае ямы прыгатуем паўвоза кампосту-перагною (аб кампосьце пагаворым у чародных нумарох). Садзіць шчэпы трэба раньняю вясною, пакуль пучкі не пачнуць распускацца.

Калі садзім шчэпы, то трэба перш за ўсё засыпаць яму на дзьве трацiны зямлёю, убіць у сярэдзіну кол, а каля кала насыпаць курганчык з самае лепшае зямлі.

У гэты курганчык, разгарнуўшы зямлю, і трэба паставіць шчэпы, раскладаючы карэньчыкі і абсыпаючы іх зямлёю так, каб шыйка дрэўца на тры пальцы была над зямлёю, бо зямля пасьля зьляжацца і дзерава трохі асядзе.

Лепш садзіць дзерава высока, чым лішне глыбока. Дрэўка трэба лёгенька прывязаць да калка, так, каб яно магло асядаць, а зямлю каля дрэўца разгарнуць і зрабіць з яе місачку для паліваньня. Шчэпы трэба часта паліваць вадою, а зямлю каля дрэўца прыкрыць саломістым гноем, каб лішне не перасыхала.

Садзячы шчэпы, трэба добра аглядаць карэньні, каб ня было паломаных; папсованыя карэньні трэба абрэзаць, але ўмеючы, нажом, каб рэз прыходзіўся плазам у сярэдзіну, каб зямля добра да яго прылягала.

І пасьля трэба дзерава добра аглядаць, асабліва ў першыя гады: зямля павінна быць заўсёды ўзварушана, паліта вадою, сухія галінкі трэба абрэзаць, мох абчысьціць (прадаюцца спэцыяльныя скрэбкі), вясною зьняць павучыньне з яечкамі і г. д.

Каб дрэва ўсьцерагчы ад марозу і вясьнянага сонца, трэба абвязаць яго на зіму кулявою саломаю.

На старых дрэвах трэба кару абскрабаць і абшмараваць глінаю з быдлячым калам, дадаўшы трохі вапны і тарпатыны (на цэбар гушчы кварту тарпатыны і шупель вапны).

Вельмі важна таксама мець і сваю *школку*, бо купляць дрэўцы дорага каштуе. Каб завясьці школку перш трэба выгадаваць дзічкі (дзікія яблыні, грушы ці сьлівы), на каторых пасьля будзем прышчапляць.

Робіцца гэта так: увосень зьбіраем зярняты дзічак і або адразу сеем, накрываючы на зіму гальлём, або возьмем дзераўляную скрынку з дзіркамі ў дне, кладзём на дно чарапкоў, вуглёў і насыпаем жоўтага пяску. На пясок кладзём рад зярнят, пасьля на зярняты кладзём ізноў пясок, пасьля ізноў зярняты і гэтак далей, радамі дагары. Скрынку ставім у склепе, ці закопваем яе ў зямлю прыблізна на аршын глыбінёю, каб не дайшоў мароз. Вясной, як адтаець зямля, выймаецца скрынка і зярняты сеюцца на загон у радкі і паліваюць, калі вясна сухая. Як вырастуць дзічкі так, што маюць па 4 лісткі, трэба іх „пікаваць“ — гэта значыць даставаць іх з зямлі, палову карэньчыка адрэзаць і перасадзіць на другі загон, але ўжо радзей. Улетку трэба іх палоць і паліваць. На восень дзічкі вырастуць так,

што некаторыя з іх можна будзе ізноў перасаджваць, але ўжо ў школку.

Месца пад школку трэба выбіраць адкрытае, каб дрэўцы прывыклі да халадоў, а зямлю трэба перакапаць на аршын. Споднюю зямлю трэба старацца выкідаць наверх, а верхнюю на спод. Калі зямля дрэнная, то можна прыбавіць пад спод старога гною. Як зямля гатова, садзім дзічкі на паўаршына адну ад аднае.

Пасаджаныя ўвосень можам на другі год у палове ліпня „акуліраваць".

Для гэтага бярэм з дрэва добрага гатунку маладую сёлетнюю галінку і вострым ножыкам зрэзваем вочка з кавалачкам дрэва. На дзічцы нявысока над зямлёю падрэзваем кару ў знак літары Т, адхіляем кару, садзім туды вочка і завязваем рагожкаю ці суконнаю ніткаю.

Праз два тыдні, калі лісток адваліцца, значыць дрэўка прынялося. Вясною, калі вочка зялёнае і расьцець, то можна ўжо лічыць, што яно зусім прынялося. Тады зрэзваем дзічку, пакідаючы над вочкам сучок, да каторага і прывязваем вырасшы з вочка расток.

На другі год вясною гладка зрэзваем сучок, замазваем яго масьцяй, а самую ўшчэпку ўкарочваем на траціну, пакідаючы над апошнім вочкам ізноў сучок. Летам дазваляем расьці дрэўку толькі найвышэйшаю галінкаю, а ўсе бочныя галінкі зрэзваем да паловы, каб пень хутчэй грубеў.

На трэці год робім тое самае, а на чацьвёрты можна ўжо рабіць карону. Пазваляем тады, каб на яблынцы расьлі галінкі з пяцёх пучкоў, а на грушы з шасьцёх. Лішнія расткі, сёлетнія, да паловы зрэзваем, а старыя і дзікія каля пня адрэзваем гладка і акуратна вострым ножыкам і замазваем масьцяй. Зямля ў школцы павінна быць чыстая, дзеля гэтага 2-3 разы праз лета трэба палоць і вясной перакапаць. Калі шчэпы ў школцы добра растуць, то тыя дрэўцы, каторым мы зрабілі карону вясною, ўвосень можам ужо садзіць у сад.

Зрабіўшы ўсё так, як тут напісана, кожны можа быць пэўны, што няраз яго дзеткі ўспамянуць добрым словам. *П.*

## Як пабудаваць хлеў, каб ён меў найлепшыя варункі для жывёліны і каб даў найболей добрага гною.

У нумары 31-м „Беларускага Дня", я ў артыкуле: „Не марнуйце гною" выказаў свой жаль з прычыны недацаненьня і няўмелага абходжаньня нашых вясковых гаспадароў з хлеўным гноем. Няма ніякага сумліву, што ў тым, што казаў; я нічуць не памыліўся. Цяпер я лічу сваім абавязкам сказаць болей трохі ў гэтай справе; дзеля таго, што там толькі закрануў я пабочныя пытаньні, даючы на іх свае рады, а іменна я даў раду, як трэба абходзіцца з гноем у полі, каб ён не марнаваўся і не прападаў дарма, як абходзіцца з ім у хляве, я гэтак сама часткова высьніў, гэта знача я казаў, што трэба старацца, каб з хлява не ўцякала *жыжа*, а дзеля таго радзіў трымаць гной заўсюды ў зьбітым *вільготным* стане, кладучы туды часьценка торфу. Кажучы гэта ўсё, я праміну ў галоўную рэч„ а іменна хлеў, які зьяўляецца сталым памешканьнем нашай жывёліны і галоўнаю сядзібаю г. знача месцам, дзе фабрыкуецца і дзе перахоўваецца гной.

Вот на гэта месца фабрыкацыі і перахоўваньня гною я і хачу зьвярнуць усю ўвагу нашых вясковых гаспадароў. Кажучы, аднак-жа, гэта ўсё, я не магу разьмінуцца з тым, каб не ўпамянуць і аб гігіене хлява, аб яго чыстаце, ад якое залежыць здароўе нашае жывёліны, а ад здароўя якое залежыць колькасьць і якасьць гною, а галоўнае гаспадарча-эканамічны дабрабыт гаспадара. Кажучы аб гэтым усім, ня можна ўмаўчаць аб тым, што гігіена хлявоў па нашых вёсках ёсьць якнайгоршая. Гаспадары нашыя зусім не здаюць сабе справы аб тым, што добры гігіенічны хлеў зьяўляецца для жывёліны неабходным. У іх разуменьні хлеў павінен быць сапраўдным *хлявом* у поўным значэньні гэтага слова, гэта знача тым месцам, дзе мусіць быць цесната, макрата і цэлыя сонмы, мучыцеляў жывёліны — мух і г. д. Есьць гэта папросту жорсткасьць гаспадара для свае-ж жывёліны, ёсьць гэта непашанаваньне самога сябе — *свае працы*. Час ужо падумаць аб гэтым яму і заняцца лепшым новым стараньнем пры будаваньні новых хлявоў, маючы пры тым на ўвазе: 1) здароўе жывёліны і 2) гной, як неабходны матар'ял добрай гаспадаркі. Што да першага, дык гаспадары нашы мусяць прылажыць усе стараньні да збудаваньня добрага хлява, адпявядальнага ўсім варункам гігіены, а іменна *прасторнага, чыстага, сьветлага і з доступам сьвежага паветра.*

Вот-жа што да прастору, то на кожную жывёліну трэба, каб прыпадала найменш $2^1/_2$—3 квадратныя мэтры, разумеецца, як жывёліна не стаіць на прывязі, бо калі яна заўсюды прывязваецца, то ўдаўжкі месца павінна мець вышэй пададзены лік мэтраў, а ўшыркі хопіць, у такім выпадку, 1—$1^1/_2$ мэтра.

Што да чыстаты, то сьцены хлява павінны быць добра пабеленыя вапнаю, прынамсі раз на год, у дадатку часта павінны быць скрапляныя карболкаю; гэтыя дзьве рэчы неабходныя ў хляве дзеля таго, што яны бароняць жывёліну ад розных заразьлівых хваробаў, а летам ад назайлівых мухаў. Каб ня было макраты ў хляве, трэба часьценка падсьцілаць жывёліну такім чынам: на добра ўжо ўтоптаным гнаі паслаць ня надта таўсты слой сухога торфу, а па ім саломы, гэта будзе адназначна з тым, што ўсё роўна, як выкідаць увесь гной на двор, а на чыстай зямлі паслаць саломы, — ляпей, аднак-жа, заўсёды, той час, які мы ўжывём на выкіданьне з хлява гною, ужыць на капаньне торфу, цераз што мы выгра-

---

Хто хоча купіць якое-небудзь гаспадарчае прыладзьдзе ці машыну найлепшае якасьці і найтаньней, той няхай зварочваецца да рэдакцыі і мы заўсёды бясплатна парадзім, дзе можна купіць якую машыну. Маючы на мэце памагчы нашаму сялянству, мы запрасілі спэцыялістага па гаспадарчых машынах і ўмовіліся з некаторымі фірмамі, што яны будуць для таго, хто зьвернецца праз нас, прадаваць машыны крыху таньней.

---

ем у тым сэнсе, што запаўняем сабе большую колькасьць *добрага гною,* — бо, як мы ведаем, торф утрымліваець добра вільгаць і ўсе газы, якія знаходзяцца ў гнаі. Што да сьветласьці і сьвежага паветра, то гаспадары павінны ўстаўляць заўсёды ў хлеў ваконцы, як гэта ёсьць у дворных хлявох, бо і жывёліна гэтак сама любіць сьвет, як і ўсякае жывое стварэньне; доступ сьвежага паветра гэтак сама павінен быць запэўнены.

Цяпер, што да другога пытаньня гэта знача што да гною, то ўся ўвага гаспадара, павінна спачываць на тым, каб гэты гной быў найлепшае якасьці, гэта знача трэба старацца, каб у ім утрымалася ўся жыжа і ўсе газы; што да газаў і часткова да жыжы, то я ўжо сказаў, што многа торф у гэтым памагаець, але паміма гэтага, аднакжа, вялікую ролю тут іграець *ток* ці іначай падлога. Вот-жа падлога гэтая, калі гаспадар добра маецца, павінна быць зроблена з цэманту, а гэта гэтакім чынам, каб на сярэдзіну быў маленькі наклон з двух бакоў; у абодвых канцох гэтага, як-бы сказаць, мелкага карыта, можна выкапаць і сцымантаваць ямы, якія змаглі-б умясьціць у сабе больш-менш па бочцы жыжы. Гэта робіцца дзеля таго, каб лішняя жыжа, якая ня можа ўтрымацца ў гнаі, магла сьцякаць і спыняцца ў гэтых ямах, адкуль яе, у разе патрэбы, можна браць у бочкі і вывозіць на поле; трэба толькі памятаць, што ёю ніколі ня можна паліваць засеваў, бо яна іх выпаліць. Ямкі, ў якіх яна знаходзіцца ў хляве, трэба накрываць накрыўкамі з дошчак. Калі ў гаспадара не стаець на цэмант, то гэтакі ток можна зрабіць з гліны, трэба толькі яе добра ўтаўчы і прасушыць. Каб гной у хляве раўнамерна ўтаптаўся трэба часта перастаўляць жалабы ці кармушкі, бо жывёліна найболей пры іх знаходзіцца. *Гаспадар.*

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Вульлі.

Перад тым, як пачаць разводзіць пчолы і зрабіцца прафэсіянальным пчаляром, неабходным зьяўляецца спыніцца над тым, якія дзеля гэтага выбраць вульлі. Дасюль нашыя пчаляры не зварочвалі на гэта вялікае ўвагі, у іх разуменьні пчолкі могуць вясьціся ў якіх папала вульлёх, і ў якія папала вульлі могуць зьбіраць мёд, заданьне-ж пчаляра тое толькі, каб выдраць гэты мёд для сябе, а вулей—месца жыцьця пчолак, —гэта рэч няважная. Гэтым і тлумачыцца тая вялікая адсталасьць у пчалярстве, якая ёсьць у нас на Беларусі. Іншыя краі ў гэтай галіне дасягнулі ўжо вялікага ўдасканаленьня і дзеля таго ў іх пчалярства не стаіць на апошнім месцы, а лічыцца надта даходным і карысным. А дасягнулі гэтага ўдасканаленьня, дзякуючы толькі ўдасканаленьню і застасаваньню новых, улепшаных рамовых вульлёў. У нас усё калоды і калоды, дзе ты ня ідзі і ня едзь; мала дзе спаткаешся з вульлямі рамовымі. Можна іх толькі спаткаць у сьвяшчэнікаў, якія амаль ня ўсе займаюцца пчалярствам і якія знаюць трохі гэта і робяць сякі-такі поступ у гэтай галіне, не выклікаючы, нажаль, насьледаваньня нашых вясковых пчаляроў — сялян. Дый у іх і адказ заўсёды ёсьць гатовы на пытаньне, чаму яны не бяруць прыкладу з лепшых пчаляроў, прыкладам з сьвяшчэнікаў. „Ён"—кажуць, — мае час, дык яму добра і ёсьць калі вымышляць, а нам—дзе там, нам трэба яшчэ думаць аб здабыцьці штодзеннага кавалка хлеба. Вот чаму і адстала ў нас пчалярства ад іншых краёў. Я радзіў-бы, аднакжа, нашым пчаляром, каб яны трохі болей зьвярталі ўвагі на гэта, плюс найбольшая ўвага пры выбары вульлёў з самага пачатку. Гэтая рэч вельмі важная і ставіць пчаляра ў вялікія клопаты, але паміма гэтага, ён не павінен забывацца, што абмылка, зробленая ім з самага пачатку, можа прывясьці яго да вялікіх недарэчнасьцяў у гэтай галіне, а за гэтым і да стратаў.

Пчолкі будуць жыць і працаваць у якім папала вульлі, але найлепей яны будуць жыць і працаваць у тым вульлі, які найболей прыстасованы да іх патрэбаў. Галоўнае заданьне пчаляра ёсьць адтрыманьне якнайбольшай колькасьці лішняга пчалінага мёду і ўжыцьцё яго сабе на прыбытак. Дзеля гэтага, пчаляр, у згодзе з гэтым заданьнем, і павінен выбіраць сабе вулей.

Пазнаўшы прызвычаеньне і інстынкты пчол, ён можа кіраваць імі і іх працаю, як яму падабаецца, прыстасоўваючы вулей і сваё абходжаньне з імі да іх патрэбаў.

Дзеля таго, каб талкова займацца пчалярствам, неабходна мець пераносныя пласты, вузы ці рамкі з вузою. Пры зразумелым ужываньні вульлёў з такімі пластамі ці рамкамі, пчаляр мае магчымасьць зусім кіраваць жыцьцём і працаю пчолак у вульлі. Такія пласты, ці рамкі лёгка пераносіць з аднаго вульля ў другі, у такіх вульлёх лёгка пчолак гэтак сама перамясьціць з аднаго вульля ў другі, а агледзець іх у такім рамовым, разборным вульлі можна ў некалькі мінут. Слабенькія вульлі можна ўмацняць, замяняючы пустыя рамкі рамкамі з дзеткаю з моцных вульлёў; можна рабіць штучнае раеньне, якое зьяўляецца болей практычным, бо ня так многа клопату і ня так многа забіраець у яго часу, сутнасьць-жа якога, як я ўжо пісаў, знаходзіцца ў тым, што мы ня хочучы пусьціць рою натуральнага, гэта знача такога, каб выляцеў з вульля і сеў дзесьці на дзераве, якога рою трэба і пільнаваць, калі і з якога вульля ён выляціць, трэба потым яго і абіраць і асаджаць — рабіць штучнае раеньне, гэта знача ловім матку, альбо бяром яе з другога вульля і саджаем яе ў матачнай клетцы ў другі пусты вулей, потым той пусты вулей, гледзячы, як палавіна пчолак меней-болей у ясны пагодны дзень знаходзіцца ў полі на рабоце — ставім на месца таго вульля, з якога хочам аддзяліць пчолак, г. зн. зрабіць штучнае раеньне. Пчолкі з поля ўсе вернуцца і ўляцяць у пусты вулей і ўся праца скончана — рой і злоўлены і асаджаны. Аб гэтым я пісаў ужо падрабязна ў сваім артыкуле „Штучнае раеньне", а тут толькі да слова прышлося ўпамянуць, што такое раеньне магчыма толькі ў рамовых вульлёх, у якіх гэтак сама, паводлуг свайго пагляду, можна выводзіць колькасьць матак. Можна гэтак сама паменшыць раеньне, альбо зусім яго не дапусьціць, расшыраючы гнязда і ўстаўляючы пустыя рамкі, аб чым я таксама ўжо ўспамянуў у „Перашкодах раеньня".

Пераносныя рамкі з вузою ў рамовых вульлёх таксама многа нам памагаюць і пры вывадзе трутняў, даючы нам магчымасьць альбо зусім іх не дапусьціць у вульлі, калі іх ня трэба, г. зн. калі ў вульлі ёсьць здаровая злучаная матка і калі мы з гэтага вульля рою мець ня хочам; альбо гэтак сама гэтыя рамкі даюць нам магчымасьць паменшыць альбо пабольшыць іх расплод у вульлі, дзеля таго, што мы можам альбо выймаць, альбо ўстаўляць рамкі з трутнявымі чарачкамі і гэта ў якой хочучы колькасьці.

Калі вулей страціць матку, альбо матка будзе выводзіць толькі трутняў, (усё гэта можна бачыць пры аглядзе вульля), то тады можна пасадзіць у вулей другую добрую здаровую матку. Калі рамкі напоўнены ўжо мёдам, то іх можна выняць і аддзяліць мёд на мёдагонцы, а пустыя рамкі ўставіць назад у вулей. Гэта надта памагаець пчолкам летам падчас багатага мёдабраньня, калі, як усім вядома, сьмяротнасьць пчолак павялічваецца дзеля таго, што яны тысячамі гінуць у полі, а памагаець дзеля таго, што даець матцы магчымасьць палажыць якнайбольшую колькасьць яечак і тым забясьпечыць істнаваньне сям'і надалей.

У гэтым артыкуле я крануўся толькі тых якасьцяў, якія маець рамовы вулей, у наступных артыкулах я пастараюся вылічыць па магчымасьці ўсе сыстэмы рамовых вульлёў, якія дзе істнуюць, і пастараюся аб'ясьніць іх устройства.

*Пчаляр.*

---

# Гаспадарчыя парады.

### Рожа ў сьвіней (чырвонка).

Вельмі распаўсюджаная хвароба. Найчасьцей хварэюць на яе сьвіньні ад 6 месяцаў да 2 гадоў, больш за ўсё ў летнія месяцы. Сьвіньня мала або зусім ня есьць, хвост апушчаны, зарываецца ў падсьцілку, часта дыхае, скура гарачая (на вушох, вакол вачэй, на брусе), паказваюцца плямы чырвонага, вішнёвага, фіялетавага колеру. Хвароба можа таксама праходзіць і бяз плямаў. Лякарствы мала памагаюць, найбольш пры сьвіных хваробах памагаюць прышчэпліваньні.

### Попел з дзерава.

Попел можна вельмі добра скарыстаць, пасыпаючы ім сенажаці. Можна яго даваць па 50-70 пудоў на дзесяціну.

Калі-б нават за попел трэба было плаціць і вазіць здалёку, дык і так шмат таньней абойдзецца пасыпаць сенажаці попелам, чымся купляными парашкамі (кайнітам, томасшлякам, фосфарам).

### Парашок на прусакі.

Узяць $1/4$ фунта анісавага (кменавага) караня, зьмеленага ў парашок, зьмяшаць яго з $1 \frac{1}{2}$ фунтамі эўкаліптавага алею. Пасыпаць нанач падлогу.

### Абмалот канюшыны.

Найлепш малаціць канюшыну зімою, калі галоўка ад марозу стане крохкаю.

Малаціць можна цэпам, або спэцыяльным прыладам у малатарні. Цэпам трэба малаціць два разы. Першы раз трэба толькі адбіць галоўкі, а другі раз гэтыя галоўкі можна ўжо малаціць мацней, каб выбіць зярняты. У аднэй галоўцы канюшыны ёсьць 30-60 зярнят. З аднаго кубічнага мэтра можна адтрымаць 8-12 кілёграмаў насеньня.

### Што рабіць па гаспадарцы ў сьнежні.

*Земляробства.* Малаціць збожжа. Вывозіць на поле гной, гліну, торф, пясок. Паправіць старыя і набыць новыя сельска-гаспадарчыя прылады.

*Жывёлагадоўля.* Правільна карміць і паіць жывёлу. Больш падсьцілаць. Аб'яжджаць маладыя коні. Даглядаць за маладою і цяжарнай жывёлай. Адлучыць бараноў ад авечак. Чытаць часопісі і кніжкі па сельскай гаспадарцы. Хадзіць на лекцыі аграномаў, калі яны ў данай мясцовасьці бываюць.

*Садоўніцтва.* Падкідаць сьнег пад дрэвы. Рэзаць зрэзы для прышчэпкі і садзіць іх у пясок у склепе. Калі накідаецца шмат сьнегу, то ачышчаць ад яго маладыя дрэвы, бо яны могуць паламацца.

*Птушніцтва.* Нанач даваць сухога збожжа, каб птушкам было цяплей. Рана — мяккі корм з высеўкамі. Добра даваць раздробненыя косьці і тоўчаныя лушпайкі з яек.

---

# Куток для мацярок.

### Дзесяць запаведзяў для мацярок.

1. Не спавівай дзіцяці моцна, бо гэта для яго нездарова. Ад моцнага спавіваньня дзіцяці горача; цела ў яго заходзіць, у зморшчках (у пахах) прэе, і праз гэта дзіця крычыць і кепска сьпіць. Гэта бабскія забабоны, што калі не спавіваць дзіцяці, то яно будзе крывое ці гарбатае. Дзеці калечацца і робяцца гарбатымі праз недагляд і ад кепскага паветра.

2. Да паўгоду кармі дзіця толькі грудзьмі; пасьля шасьцёх месяцаў можна даваць каровінае малако, напалову з вадой; але як малако, так і ваду, якая дадаецца да малака, трэба абавязкова пераварыць; малако, ваду і прыладзьдзе для іх (гаршкі, бутэлькі) трэба трымаць у чыстаце.

3. Не кармі дзіцяці кожны раз, як толькі заплача, але наперад агледзь яго добра і даведайся, ад чаго яно плача: можа яму мокра, можа замоцна спавіта, можа дзе сапрэла, можа што муляе, можа кусае і г. д. Да 2-х месяцаў кармі дзіця праз кожныя дзьве гадзіны, пасьля 2-х месяцаў кармі праз кожныя 3 гадзіны. Калі будзеш часьцей карміць, то дзіця будзе хварэць на жывот.

4. Белы хлеб, кашу, бульбу можна пакрысе даваць дзіцяці толькі тады, калі зьявяцца зубочкі.

5. Ніколі не давай дзіцяці пустой сыскі або жвачкі з хлеба, з кашы і іншага. Памятай, што жвачка—страшэнны вораг дзіцяці. У ёй хвароба і зараза. У ёй—сьмерць дзіцяці.

6. Да 5-цёх месяцаў мый дзіця штодня, пасьля 5-цёх месяцаў — праз дзень. Будзеш часьцей мыць—здаравей і мацней будзе дзіця.

7. Мый галоўку кожны раз, як купаеш дзіця; не заводзь бруду і кароcты на галоўцы; гэта бабскія шкодныя забабоны, нібы галоўкі ня трэба мыць. Прамывай часьценька таксама і вачаняты, каб не закісалі.

8. Не калышы дзіцяці, бо гэта шкодзіць яму на галаву.

9. Не пакідай дзіцяці на маленькую недарослую няньку, бо шмат ад гэтага бывае дзіцячых хвароб і калецтваў.

10. Як захварэе дзіця, то не марнуй часу і нясі яго да доктара, а ня шукай парады ў баб, шаптух і знахароў.

## Гігіенічна-ратаунічы аддзел.

### Сьцеражэцеся, капаючы глыбокія студні!

У кожнай ваколіцы расказваюць, што там і там капалі калодзеж, а калі ўжо выкапалі глыбокі і прышлі пасьля абеду зноў капаць, то той чалавек, што першы спусьціўся ў студню, згінуў-задохся. Залежыць гэта ад таго, што ў калодзежы, на дне ямы сабраліся ў большай колькасьці атрутныя газы. Калі чалавек апусьціўся на дно, ён атруціўся газамі і памёр. У нас такія выпадкі здараюцца, хоць і ня так ізноў часта. Здараюцца яны ня толькі там, дзе капаюць новыя калодзежы, але ня менш часта і там, дзе чысьцяць старыя. Дзеля таго, пры капаньні калодзежа, ці ачыстцы старога, ніколі ня можна адвязваць ад сябе вяроўкі, каб у кожны момэнт можна было чалавека выцягнуць наверх. Дзеля таго-ж трэба, каб на версе заўсёды былі людзі, якія маглі-б гэта зрабіць і якія сачылі-б за работнікам у калодзежы,

Апрача таго, добра запасьціся і другой асьцярогай, каб дарэмна ня згінуць. Справа ў тым, што найчасьцей газы зьбіраюцца ў калодзежы не адразу, а паволі. Найчасьцей яны цяжэйшыя, як паветра і дзеля таго зьбіраюцца пры дне, а толькі тады падымаюцца, калі ўжо пры дне зьмясьціцца ня могуць, бо іх набралася многа. Так што, калі газы не прарываюцца адразу, то яны сьпярша займуць чалавеку ногі, пасьля падымуцца да пояса, да грудзей і ўрэшце да вуснаў і носа. Тады чалавек пачынаець труціцца і душыцца. Добра ведама, што дробныя цёплакроўныя жывёліны больш чулыя на атручваньне газам, як чалавек. Дзеля гэтага, той чалавек, які апускаецца ў падазронны калодзеж, бярэць з сабою, ў маленькую клетачку, звычайную дарослую мыш. Мыш атручваецца газамі ўжо тады, калі чалавеку яны толькі пачынаюць шкодзіць, але чалавек іх яшчэ не заўважваець. Апрача таго, мыш у клетачцы прывязваецца да пояса, так што мыш згінець, як толькі газы набяруцца ў ровень з поясам чалавека. Бачачы, што мыш душыцца, чалавек сам робіцца асьцярожнейшым і альбо вылазіць з калодзежа, альбо даець знаць наверх, каб за ім сачылі і цягнулі наверх. як толькі ён дасьць знаць ці перастане падаваць азнакі жыцьця.

*Я. П.*

## Раны.

У паветры, у вадзе, у зямлі жывуць маленькія жывучкі-бактэрыі. Чалавечае вока іх убачыць ня можа. такія яны маленькія, а трэба глядзець праз трубу-мікраскоп, якая павялічваець у некалькі сот, або нават у некалькі тысячаў разоў. Пападаючы ў рану, яны прычыняюцца да таго, што рана разгніваецца. Калі пападуць у кроў, то кроў заражаецца і чалавек хварэець ці нават уміраець.

Трэба берагчыся, каб у кроў не папалі шкоднікі бактэрыі. Праз скуру ім трудна пралезьці, калі мы іх самі не ўватром як-небудзь, але ня тое робіцца, калі ёсьць якая-небудзь рана. Тут ужо трэба перад усім трымаць рану ў чыстаце. Першае, што трэба зрабіць, гэта затрымаць кроў, што цячэць з раны. У нас па вёсках, каб хутчэй затрымаць кроў, ужываюць павучыньне, якое прыкладаюць да раны. Часам павучыньне мяшаюць з мякішам хлеба і гэтай мешанінай затыкаюць рану. Так рабіць дужа небясьпечна. Павучыньне заўсёды бруднае, на ім насела многа пылу і можна заразіць рану, бо ў пыле заўсёды многа бактэрыяў, асабліва гнільных. Рана пачнець разгнівацца і часта дзеля маленькай ранкі прыходзіцца адрэзваць руку ці нагу. бо заразілася кроў. Калі рана няглыбокая, то кроў праз 5—10 мінут засыхаець сама. Але найлепш кожную рану прамыць чыстай цёплай вадой. Калі рана невялікая, то пашмараваць ёдам, а калі большая то ёдам не заліваць, а прамыць яшчэ чыстым сьпіртам і завязаць добра чыстай ганучкай і пільнавацца. каб рану не засьмяціць якім брудам, гразёю і зямлёю, бо можа скончыцца вельмі кепска.

Менш часта, але здараецца, што каму адарвець ці адрэжаць руку, нагу, ці проста з раны, раз за разам, сьвішча чырвонага, яснага колеру кроў. Тады трэба ўзяць хустку, ці ручнік і зьвязаць яго канцы, так. каб пад яго свабодна магла прайсьці палка, тады гэтай палкай пачынайце закручваць павязку на руцэ ці назе, аж пакуль кроў не перастанец ісьці. Такую павязку трэба накладаць так, каб яна была на здаровым целе і бліжэй да сэрца, як рана. Усё гэта трэба рабіць якнайхутчэй. Як толькі ўжо пераціснеце так нагу, што кроў перастанець цуркам вылятаць з раны, трэба як мага найхутчэй вясьці хворага да доктара, які жывець найбліжэй, бо так перацісьненая рука ці нага не адтрымліваець ужо сьвежай крыві і не даўжэй як праз дзьве гадзіны ўміраець, і яе ўжо трэба будзе адрэзаць. Калі з раны цячэць цурком ня чырвоная, а цёмная кроў, то такую повязь трэба закруціць, каб рана была ад сэрца бліжэй, чымся повязь, і таксама, якнайхутчэй зьвярнуцца да доктара. Ня можна такіх павязак закручваць на шыі. бо па-першае чалавек задушыцца, а калі-б не задушыўся, то кроў перастала-б даходзіць да мазгоў, а мазгі могуць жыць бяз сьвежай крыві толькі 7 — 8 мінут, пасьля-ж гэтага часу чалавек уміраець. Калі кроў моцна цячэць з раны на галаве ці шыі. то трэба налажыць з палатна добры бінт і зьвярнуцца якнайхутчэй да доктара, бо калі чалавек зашмат страціць крыві, то ён таксама памрэць, у лепшым выпадку доўга прахварэець.

Досыць часта здараецца, што каб стрымаць кроў, засыпаюць рану зямлёй. Кроў, праўда. часам. досыць шыбка стрымліваецца, але ў зямлі найбольш ужо глыбей, там, куды не даходзіць сьвятло сонца, жывуць бактэрыі пруцянца (tetanus). Калі яны пападуць у рану, а адтуль у кроў, то чалавек хварэець на страшную хваробу—пруцянец, палаціне tetanus. Увесь чала-

век пруцянеець да таго, што робіцца, як бервяно, пашчэнкі так моцна заціскаюцца, што ня можна адчыніць іх, усё цела адчуваець боль і ў страшэнных муках чалавек канаець, прамучыўшыся часам некалькі дзён. Найчасьцей хварэюць на пруцянец садоўнікі, землякопы і наагул людзі якія мусяць, капацца ў глыбейшых слаёх зямлі.

*Я. П.*

## Першая дапамога ў няшчасных выпадках.

*Крываток з носу.* Каб спыніць крыватак, трэба: 1) галаву трымаць уверх, крыху адхіліўшы яе назад, 2) расшпіліць каўнер, каб нішто ня сьціскала шыі, 3) сьціснуць нос пальцамі ці, яшчэ ляпей, заткнуць ноздру ватай або кавалачкам чыстага шматочка, 4) на пераносьсе і на лоб накладаць халодны кампрэс.

Ні ў якім разе ня трэба нахіляць галавы ўніз і даваць крыві вольна выцякаць. Таксама нельга ўцягаць у нос халодную ваду і не прачышчаць носа, бо гэта толькі памагае крыватоку, але ня спыняе яго.

*Апёкі.* Пры апёках, калі загарыцца адзежа, трэба патушыць агонь (а гэта можна зрабіць, накінуўшы якую-небудзь тканіну, коўдру), абліваць халоднай вадой, каб змокла ўся адзежа, а пасьля асьцярожна, ня зьдзіраючы скуры з апаленых месцаў, скідаюць абгарэлую адзежу пры дапамозе ножніц.

Апаленыя месцы густа пасыпаюць картаплянай мукой ці содай або абкручваюць чыстымі шматамі, намочанымі ў льняным масьле, або нашмараваць мылам.

Калі чалавек абварыцца варам, то робяць таксама: добра абліваюць адзежу сьцюдзёнай вадой, асьцярожна нажніцамі абцінаюць адзежу і пасьля ці прыкладаюць прамасьленыя шматкі, ці густа абсыпаюць содай, картаплянай мукой.

Зрабіўшы гэту першую дапамогу, калі апёкі моцныя і вялікія, трэба якнайхутчэй зьвярнуцца да доктара.

## Пякотка.

Хвароба гэта даходзіць да катару жывата. Дзеля гэтага, хто мае часта пякотку, павінен высьцерагацца ўсякіх п'яных напіткаў, не павінен есьці ніякай кісьлі і нават дужа кіслай стравы. А калі дужа пячэ, дык трэба ўзяць лыжачку ачышчанай соды, разьмяшаць з вадой і выпіць.

# Юрыдычныя парады.

### Балеславу Буркоўскаму ў Прудох.

*Пытаньне.* 30 гадоў таму пазычыў швагру 75 рублёў пад расьпіску, ці магу спагнаць грошы?

*Адказ.* Ня можаце, бо зайшла даўнасьць.

*Пытаньне.* Перад вайною 1914 — 1918 г. ў вёску прыяжджаў урадовец, які сказаў, што на маё імя ёсьць агарод—4 дз. зямлі. Ці існуюць перадваенныя паперы, каб можна было знайсьці гэную зямлю, як гэта зрабіць?

*Адказ.* Трэба пашукаць дакумэнтаў у архіве Гарадзенскага Акружнага Суда, дзе знаходзяцца прадваенныя паперы. Звярочваючыся трэба падаць, дзе тая зямля, як называецца дакумэнт і хто яго выдаў. Калі гэтага ня ведаеце, дакумэнту не знайдзеце.

### Лукшы Кацярыне ў Карабанах.

*Пытаньне.* Ці можа прыехаць на сталае жыцьцё мая маці 70 г. з Ленінграду?

*Адказ.* Падайце просьбу ў Міністэрства Заграгічных Справаў у Варшаве (Ministerstwo Spraw Zagranicznyh Wydział Konsularny).

У просьбе напішэце, што зьяўляецеся грамадзянкай польскай і можаце з свайго даходу пракарміць сваю маці.

# Крык роспачы.

Ніжэй друкуем вельмі характарны дакумант аб беларускай сучаснасьці, адкрытае пісьмо да грамадзянства чалавека, расейца па нацыянальнасьці, але вельмі прыхільнага да беларускага руху, што ў расейскім грамадзянстве зьяўляецца вынятковым зьявішчам. Тым гэтае пісьмо і цікавае, што яно выйшла з-пад пяра чалавека „прыватнага“, які разглядаець беларускі рух больш-менш об'ектыўна і бесстаронна.

Не падзяляем, аднак, пэсымізму аўтора гэнага пісьма, бо верым, што Беларускі Народ маець у нетрах сваіх нявычарпаныя сілы, якія дадуць Яму лёгка і хутка пераждыць і яшчэ адну навалу, якою зьяўляецца беспадстаўная грызьня і калатня розных беларускіх групаў і групак, спрытна пасеяная на нашых абшарах агентамі чырвонага маскоўскага імпэрыялізму.

Рэдакцыя.

## Пісьмо ў Рэдакцыю.

Паважаны Грамадзянін Рэдактар!

„Цэлы рад унутраных і вонкавых прычынаў прымушае мяне зрабіць публічна гэткага зьместу заяву.

Ад пэўнага часу беларускае грамадзянства падзялілася на некалькі розных групаў, між якімі стварыліся такія немагчыма варожыя адносіны, што яны атручваюць ды руйнуюць усё палітычнае грамадзкае дый нават папросту — асабіста-прыватнае жыцьцё ў грамадзянстве.

Скуткі гэтага страшэнна ненармальнага стану — перад вачыма ўсіх...

Асабліва несьцярпімае палажэньне вытвараецца гэтакім станам грамадзянства для тых, хто жыве ў стычнасьці з ім, не залічаючы сябе азначана ні да аднаго з варожых „абозаў“.

Але — трэба думаць, што з распачацьцем выбарнай кампаніі, калі і без таго раздражненыя групавай барацьбой ды ненавісьцяй страсьці разгарацца яшчэ страшней, гэткі стан у грамадзянстве яшчэ завострыцца... Усё гэта не варожыць і ў далейшым нічога добрага беларускаму грамадзянству, а праз яго і беларускаму народу, аб якім — у заядласьці групавай ці асабістай барацьбы — яго павадыры часта забываюць...

Зусім асаблівае палажэньне ў беларускім грамадзянстве займаю я. Я заўсёды лічыў і лічу сябе, так сказаць,—непаўнапраўным сябрам беларускага грамадзянства, як ня маючы — а ні палітычных правоў у краі (польскага грамадзянства), а ні паўнаты ўласнага беларускага нацыянальнага самапачуцьця і самаазначэньня, ня гледзячы на маю кроўную сувязь з краем і маё бязьмежнае жаданьне працаваць на яго карысьць. Дзеля таго я павінен і пачуваць сябе толькі як быццам „госьцем“. ці „працаўніком“, не бяручы на сябе абсалютна ніякай адказнасьці за ўсё, што робіцца ў беларускім грамадзянстве яго паўнапраўнымі, а дзеля таго і бяручымі на сябе паўнату адказнасьці сябрамі. Я быў гэткім чынам тутака заўсёды — у найвышэйшай меры „прыватным чалавекам“. І я ўсьцяж рабіў, наскольки ў мяне хапала сілы, — усе высілкі, каб лагодзіць усё ўзрастаючую, усьцяж шалеючую варожасьць паміж раскалоўшымі грамадзянства групамі, стаўшыся амаль не „фаховым“ разьемчым судзьдзёй у лічных справах іх павадыроў, выступаючы аднолькава, як паўнамоцнік то тэй, то гэтай стараны... Дагэтуль я не забіраў ніколі — за ўвесь час майго сужыцьця з беларускім грамадзянствам — адкрыта голасу ў яго прэсе, выпаўняючы ў ёй толькі працу „фахоўца“.

Цяпер — бо-ж больш не магу вытрымаць! — я ў пяршыню забіраю голас з аднаго боку, — дзеля апошняй перасьцярогі: даволі гэтай моральнай атруты — узаемнага нігілізаваньня! даволі гэтага самаруйнаваньня! даволі ахвяраў гэтага страшэннага падзелу. Гэты падзел, пры нашай слабой культурнасьці дый асабліва зложаных і цяжкіх абставінах жыцьця — ідзе, нажаль, значна, ах, значна

далей, як нармальны падзел грамадзянства на палітычныя партыі, ці грамадзкія групы, ня толькі распыляючы, але, як сказана, папросту руйнуючы, зьніштажаючы грамадзянства, якое і без таго ня можа пахваліцца багацьцем людзей, здольных да культурна-будаўнічай працы... Гэта з аднаго боку. А з другога, я гэтым прымушаны заявіць, што я ня маю больш папросту а ні фізычных, а ні моральных сілаў зносіць такі стан таго грамадзянства, сябрам якога я хачу сябе лічыць, — я не магу ня толькі працаваць, але папросту не магу больш дыхаць атручанай атмосфэрай, якая створана гэтым нігілістычным, запамінаючым аб людзкіх і боскіх законах, аб інтарэсах і моральным здароўі грамадзянства і народу, — падзелам і яго скуткамі... Ня маючы ізноў паўнапраўнай волі і ўласнага самапачуцьця ў беларускім грамадзянстве, каб распачаць якуюнебудзь уласную, адкрытую, адказную акцыю — грамадзка-палітычную, — скіраваную на перамогу страшэннага зла падзелу, я магу, пасьля гэтай сваей перасьцярогі, фактычна зрабіць толькі адзіны, астаючыся для мяне магчымым, а канешным, — крок. Калі дагэтуль я быў абмежаваным дый самаабмежаваным „homo privatus“, дык цяпер я раблюся — у беларускім грамадзянстве „homo privatissimus“...

Практычна гэта мае значыць тое, што я раблю сябе сам яшчэ больш і яшчэ далей абмежаваным у сваім сужыцьці і супрацы з беларускім грамадзянствам. Я фармальна выходжу з усіх беларускіх таварыстваў, дзе я ад даўняга часу быў, — праўда, у апошнія часы, — зусім ужо нячынным бязьдзейным сябром. Бо-ж я не магу — паводле агульнага падзелу беларускага грамадзянства на групы — таксама дзяліць беларускую навуку, мараль, культуру, гаспадарку, школу і г. д., як гэта змушаны рабіць падзеленыя паміж варожымі групамі існуючыя беларускія таварыствы і іншыя установы... У дадатак — дзяліць тое, чаго і без таго — драбніца.

Я складаю з сябе апошнія рэшткі грамадзкіх правоў і грамадзкай адказнасьці, якія яшчэ, прынамсь намінальна, меў у беларускім грамадзянстве, як сябра гэтых таварыстваў... І гэткі мой стан „анабіозу“ („паўсьмерці“) будзе трываць датуль, пакуль існуючы ў грамадзянстве ненармальны, шкодны падзел прынамсь не пазбавіцца сваіх самазабойчых „нігілізмаў“... Можа трэба было-б зрабіць якраз наадварот — астацца і працаваць усьцяж... Я гэта разумею. Але на гэта я ўжо ня маю сілаў. Ня слухалі мяне раней, калі з усіх сілаў праціўіўся падзелу, пераконваючы ў яго страшэнных няўхільных скутках... Пэўна-ж — не паслухаюць і цяпер... Цяпер, калі гэтыя скуткі прыходзяць усё ясьней, і страшней, вінаватыя павінны самі адбыць грамадзкую кару дый у яе жудзе—зразумець віну і адрадзіцца...

Пакідаю сабе толькі — вольнае і абсалютна неадказнае супрацоўніцтва асьветна - інфармацыйнага характару ў беларускіх часопісях, якія гэтага пажадаюць. У заключэньне дадаю, што ніякай асабістай уразы ні да каго з пасобных сяброў беларускага грамадзянства я ня маю.

Шчыра спагадаючы амаль ня роднаму мне беларускаму народу, астаюся назаўсёды

*Уладзімер Самойла.*

5 кастр. 1927 г. Вільня.

**Ад Рэдакцыі „Беларускага Дня“.**

Усім падпісчыкам „Беларускага Дня“, якія аплацілі падпісную плату да Новага Году, бясплатна разасланы, як дадатак, № 2—3 „Беларускай Культуры“.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Балеславу Буркоўскаму.** 7 зл. атрымалі, 2 зл. у рэдакцыю „Сахі“ перадалі. Газэту высылаем.

**Язэну Цінгэлю,** пошта Опса. Газэта вам высылаецца ад 1-IX-1927. Дамагайцеся на пошце.



КУПЛЯЕМ УСЯЛЯКАЕ СЫР'Ё і ПЛАЦІМ НАЙБОЛЬШЫЯ РЫНАЧНЫЯ ЦЭНЫ.